Гродна
№8 (537),
19 красавіка 2020
www.slowo.grodnensis.by



Слова Жыцця
ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# БОЖАЯ МІЛАСЭРНАСЦЬ – ВЯЛІКІ ДАР







*Падчас урачыстай св. Імшы ў Нядзелю Божай Міласэрнасці ў воранаўскім санктуарыі*

**ЗАВЯРШЫЛІСЯ ЎРАЧЫСТАСЦІ ВЯЛІКАГА ТЫДНЯ, ПАДЧАС ЯКІХ УЗГАДВАЛІ БАЛЕСНУЮ МУКУ І СМЕРЦЬ ХРЫСТА І ЯГО ЎВАСКРАСЕННЕ Ў ХВАЛЕ. ГЭТЫ ЧАС, ЯК І НАСТУПНАЯ НЯДЗЕЛЯ БОЖАЙ МІЛАСЭРНАСЦІ, ПАДШТУРХОЎВАЕ НАС ДА РАЗВАЖАННЯ НАД ГРАХОМ, СПРАВЯДЛІВАСЦЮ БОГА І ЯГО БЯЗМЕЖНАЙ МІЛАСЭРНАСЦЮ.**

● працяг на с. 3

**“Міласэрнасць – гэта найвышэйшы акт, у якім Бог выходзіць нам насустрач”. Папа Францішак**

# РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

### II ВЕЛІКОДНАЯ НЯДЗЕЛЯ (НЯДЗЕЛЯ БОЖАЙ МІЛАСЭРНАСЦІ)
**Ян 20, 19–31**

Калі быў вечар таго першага дня тыдня, і дзверы дома, дзе збіраліся вучні, былі замкнёныя ад страху перад юдэямі, прыйшоў Езус і стаў пасярэдзіне, і сказаў ім: “Спакой вам!”. І, сказаўшы гэта, паказаў ім рукі і бок. Узрадаваліся вучні, убачыўшы Пана. Тады Езус зноў сказаў ім: “Спакой вам! Як паслаў Мяне Айцец, так і Я пасылаю вас”. І, сказаўшы гэта, дыхнуў, і кажа: “Прыміце Святога Духа. Каму адпусціце грахі, таму будуць адпушчаны; на кім пакінеце, на тым застануцца”. Тамаш, адзін з Дванаццаці, называны Блізня, не быў з імі, калі прыйшоў Езус. Іншыя вучні казалі Яму: “Мы бачылі Пана”. Але ён сказаў ім: “Калі не ўбачу на руках Яго ран ад цвікоў і не ўкладу пальца свайго ў раны ад цвікоў, і не ўкладу рукі сваёй у бок Яго, не паверу”. І праз восем дзён зноў былі ў доме вучні Ягоныя і Тамаш з імі. Хоць дзверы былі замкнёныя, прыйшоў Езус, стаў пасярэдзіне і сказаў: “Спакой вам!”. Потым кажа Тамашу: “Дай сюды палец твой і паглядзі на рукі Мае; дай руку тваю і ўкладзі ў бок Мой; і не будзь няверуючым, але веруючым”. Тамаш, адказваючы, сказаў Яму: “Пан мой і Бог мой!”. Езус кажа яму: “Ты паверыў, Тамаш, таму што ўбачыў Мяне. Шчаслівыя тыя, хто не бачыў, а паверыў”. Шмат іншых цудаў, пра якія не напісана ў гэтай кнізе, учыніў Езус перад вучнямі сваімі. Гэтае ж напісана, каб вы паверылі, што Езус ёсць Месія, Сын Божы, і каб, веруючы, вы мелі жыццё ў імя Ягонае.

## СПАЗНАЦЬ МІЛАСЭРНАСЦЬ

Вучні ўжо ведаюць, што магіла пустая, што некаторыя сустрэлі ўваскрослага Езуса. Нягледзячы на гэта, сядзяць пад замком і баяцца. Не разумеюць сэнсу падзей. Ім недастаткова ўбачыць уваскрослага Настаўніка, патрабуюць унутранага святла – патрабуюць Святога Духа. Таму Хрыстос, які з’яўляецца сярод іх, гаворыць: “Прыміце Святога Духа”. Такім чынам Ён прадвяшчае і папярэджвае аб тым, што адбудзецца ў дзень Пяцідзясятніцы.

Дар Спаслання Духа звязаны з прабачэннем грахоў, што з’яўляецца адной з галоўных праяў Божай міласэрнасці. Яна нараджае нас да незнішчальнай спадчыны, г. зн. да вечнага жыцця ў Небе – мэты нашай веры. Неба абсалютна не належыць чалавеку, гэта дар міласэрнага Бога. А паколькі нас чакаюць такія цудоўныя перспектывы, можам сапраўды цешыцца, нават калі вымушаны будзем “перажыць крыху смутку з-за разнастайнага вопыту”. Той, хто спазнае міласэрнасць, не затрымлівае яе для сябе, але дзеліцца ёй, як хлебам, з іншымі.

**Ці здольны я аказаць міласэрнасць іншым?**

**Якім для мяне з’яўляецца Бог?**

### III ВЕЛІКОДНАЯ НЯДЗЕЛЯ
**Лк 24, 13–35**

Вось двое вучняў Езуса ішлі ў вёску, званую Эмаус, якая знаходзілася ў шасцідзесяці стадыях ад Іерусаліма. І размаўлялі паміж сабою пра ўсё тое, што адбылося. І калі яны размаўлялі і разважалі між сабою, сам Езус наблізіўся ды ішоў разам з імі. Але вочы іх былі стрыманыя, таму не пазналі Яго. І Ён сказаў ім: “Пра што гэта вы размаўляеце паміж сабою?”. І яны спыніліся, поўныя смутку. Адказваючы, адзін з іх, па імені Кляоп, сказаў Яму: “Ты, напэўна, адзіны, хто жыве ў Іерусаліме і не ведае, што ў гэтыя дні там сталася”. І спытаў у іх: “Што?”. Яны сказалі Яму: “Тое, што сталася з Езусам з Назарэта, які быў прарокам магутным у чынах і ў слове перад Богам і ўсім народам; як першасвятары і правадыры нашыя выдалі Яго на смерць і ўкрыжавалі. А мы спадзяваліся, што Ён той, хто павінен вызваліць Ізраіль. Цяпер жа пасля ўсяго гэтага мінае ўжо трэці дзень, як гэта сталася. Але і некаторыя з нашых жанчын здзівілі нас. Яны былі на досвітку каля магілы, але не знайшлі цела Ягонага. Прыйшлі і сказалі, што бачылі анёлаў, якія з’явіліся ім і паведамілі, што Ён жывы. І пайшлі некаторыя з нашых да магілы, і засталі ўсё так, як казалі жанчыны, але Яго не бачылі”. Тады Ён сказаў ім: “О, неразумныя і марудныя сэрцам, каб паверыць усяму, што казалі прарокі! Ці ж не трэба было Месіі цярпець усё гэта, каб увайсці ў сваю славу?”. І, пачаўшы ад Майсея і ад усіх прарокаў, растлумачыў ім тое, што ва ўсім Пісанні датычыла Яго. І наблізіліся яны да вёскі, куды ішлі, і Ён зрабіў выгляд, што хоча ісці далей. Але яны настойвалі, кажучы: “Застанься з намі, бо ўжо вечарэе, і дзень мінае”. І Ён увайшоў, каб застацца з імі. Калі сядзеў з імі за сталом, узяў хлеб, благаславіў яго, паламаў і даў ім. І тады адкрыліся іхнія вочы, і яны пазналі Яго. Але Ён стаўся нябачным для іх. І яны сказалі адзін аднаму: “Ці ж не палала ў нас сэрца нашае, калі Ён размаўляў з намі ў дарозе і тлумачыў нам Пісанне?”. І ў тую самую гадзіну яны ўсталі і вярнуліся ў Іерусалім, і знайшлі сабраных Адзінаццаць і тых, хто быў з імі, якія казалі ім: “Пан сапраўды ўваскрос і з’явіўся Сымону”. І яны расказалі пра тое, што здарылася ў дарозе, і як пазналі Яго ў ламанні хлеба.

## ЗАСВЕДЧЫЦЬ ПРА ХРЫСТА

Як і вучні, якія ідуць у Эмаус, мы таксама людзі ў дарозе, што накіроўваюцца да дома Айца. Мы не адзінокія на гэтым шляху, таму што побач ідзе Езус, які праз паслугу Касцёла ўмацоўвае нас сваім Словам і Целам. Усё, што неабходна, – мець вушы, адкрытыя на Яго голас, чыстае сэрца, каб прыняць Яго, і веру, каб Яго распазнаць. Тады зведаем тую ж радасць, якую зведалі сведкі ўваскрослага Хрыста.

У знаку паламанага хлеба вучні пазналі Езуса і падзяліліся радасцю гэтай сустрэчы з іншымі – сталі апосталамі Яго Добрай Навіны аб збаўленні. Тое самае здзяйсняецца перад намі і для нас кожную нядзелю, якая з’яўляецца напамінам уваскрасення Пана. Езус скіроўвае нам сваё Слова і ламае перад намі хлеб. Можам адчуць, як сэрца ў нас палае, і падзяліцца радасцю сустрэчы з Панам з іншымі.

**Ці пазнаю Пана ў час Эўхарыстыі?**

**Як дзялюся з іншымі радасцю ад сустрэчы з Панам?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Даверыцца Богу

***Уваскрослы Езус абуджае нашу надзею і адорвае новай любоўю. Гэтая любоў большая за смерць, перамагае ўсякае зло і цалкам бескарыслівая. У цяперашні складаны час, калі ўвесь свет пагружаны ў страх і роспач, хочацца ўсклікнуць, што Божая любоў найвышэй за любую эпідэмію і бедства. Пан над намі!***

Свята Божай Міласэрнасці, якое перажываем у першую нядзелю пасля Вялікадня, паказвае веліч любові Бога. Езус адкрывае перад намі сваё Найсвяцейшае Сэрца, каб маглі зачарпнуць мноства ласкаў для сябе і ўсяго свету.

У гэты дзень можам асаблівым чынам дакрануцца да прабітага бока Хрыста, пацалаваць Яго знясіленыя рукі і параненыя ногі. Наталіць смагу ў жыватворнай Крыніцы пакліканы асабліва тыя, хто церпіць хваробы ці пакуты, альбо перажывае драму адзіноты ці ізаляцыі, альбо ў каго заблыталіся жыццёвыя шляхі. Для чалавека няма іншай крыніцы надзеі і ўмацавання, акрамя Божай міласэрнасці. Таму трэба з верай паўтараць за св. сястрой Фаўстынай: “Езу, давяраю Табе!”.

Божую міласэрнасць можна параўнаць з выратавальным кругам, які Бог кідае пагружанаму ў грахі і смутак чалавецтву. Ён падае сваю далонь згубленаму ў сучасным разарваным свеце чалавеку – з дарам любові, якая прабачае. У Бога ўсё мае адпаведны час і месца. І хоць мы не ўсё ўсведамляем, Ён заўсёды чувае над намі.

Для таго, каб спазнаць веліч Божай міласэрнасці, неабходна толькі адкрыць сябе для бязмежнасці гэтай гаючай любові. Тады зможам цалкам удзельнічаць у радасці Уваскрасення. Толькі чалавек з чыстым сэрцам, які здольны даверыцца Богу, можа быць сведкам Яго міласэрнасці. Сэрца, вочы, рукі, ногі і вусны такой асобы становяцца поўнымі спачувальнай і прабачаючай любові (параўн. Дз. 163).

Мы можам быць перакананы, што нават у той няпростай сітуацыі, у якой апынуўся ўвесь свет, уваскрослы Езус адорыць чалавецтва дарам глыбокай веры, каб не ўсумніліся, абудзіць нашу пахіснутую надзею і зноў спашле сваю любоў. Гэтая любоў хоча даць нам новы шанс на лепшае заўтра. Сёння, як ніколі раней, маем у ёй патрэбу, каб у сэрцы зноў запанавалі спакой і радасць, якія выцякаюць з факту пустой магілы Збаўцы.

## Дарагія Чытачы!

**Углядаючыся ў міласэрнага Пана, скажам за св. Тамашам “Пан мой і Бог мой!”, каб магчы ўдзельнічаць у благаслаўленні Збаўцы: “Шчаслівыя тыя, хто не бачыў, а паверыў” (Ян 20, 29). Не будзем проста спалоханымі вучнямі Хрыста, замкнёнымі ў шкарлупіне сваіх слабасцей, але станем адважнымі прапаведнікамі Евангелля Езуса, таму што Пан пераадолеў усё зло і прагне нашага шчасця.**




# Ян Павел II і міласэрнасць

Папа размаўляў з членам турэцкай групоўкі, Ян Павел II адказаў, што гэта яго таямніца. Пасля дадаў: “Я размаўляў з ім, як з братам, якому прабачыў і які цешыцца маім даверам”.

Дадзены прыклад можа падацца банальным, бо даўно і шмат каму вядомы, але гэта не пазбаўляе яго глыбіні. Цяжка нават уявіць, што адчувае чалавек, які ідзе на сустрэчу з асобай, якая страляла ў яго, з-за якой ён апынуўся ў шпіталі і перажыў шмат фізічнага болю. З другога боку, на што можа спадзявацца чалавек, які цэліўся з пісталета (і трапіў), ад сустрэчы з ахвярай? Як Ян Павел II адрэагаваў на ўчынак злачынца, які асудзіў увесь свет? Што прачытаў у позірку Папы Алі Агджа?

> *Нішто так не патрэбна чалавеку, як Божая міласэрнасць – тая пяшчотная, спачувальная любоў, што ўзносіць чалавека па-над яго слабасцю.*

Такія словы прамовіў папа Ян Павел II у 1997 годзе падчас свайго першага візіту ў санктуарый Божай Міласэрнасці ў Кракаве-Лагеўніках (Польшча). Можна меркаваць, што гаварыць пра міласэрнасць Бога і таму падобныя набожныя рэчы – абавязак Святога Айца. Гэта праўда! Аднак міласэрнасць – такая рэч, якая мае сэнс толькі тады, калі прымяняецца ў жыцці. Выключна ў тэорыі яна мёртвая. Разважаць пра міласэрнасць і не жыць ёй – пустое: і для самога чалавека, і іншыя гэта заўважаюць.

Многія памятаюць пра сустрэчу папы Яна Паўла II з Мэхмэтам Алі Агджой, які здзейсніў замах на Пантыфіка ў 1981 годзе. Сустрэча адбылася 2-ма гадамі пазней. У сеціве можна адшукаць відэа-фрагменты і фотаздымкі з канцоўкі гэтага 25-хвіліннага спаткання. На іх бачны твар Папы і вязня Алі… На пытанне аднаго з журналістаў, аб чым



*Падчас сустрэчы з Алі Агджой у вязніцы*

У сваіх прамовах, распараджэннях, учынках, а таксама на ўзроўні міжчалавечых адносін св. Ян Павел II заўсёды паказваў, што разумее, як усім людзям – разам і паасобку – патрэбна свядомасць Божай міласэрнасці. Хутка пасля абрання на Святы Пасад ён напісаў першую ў гісторыі Касцёла энцыкліку, прысвечаную гэтай тэме, пад назвай “Dives et misericordia” (“Бог, багаты на міласэрнасць”). Гэта адзін з першых дакументаў, выдадзены Пантыфікам у 1980 годзе. Таксама св. Ян Павел II зацвердзіў у Касцёле свята Божай Міласэрнасці, якое вернікі адзначаюць у першую нядзелю пасля Вялікадня. У гэты ж дзень – 30 красавіка 2000 года – кананізаваў св. Фаўстыну Кавальскую, са слоў якой, запісаных у “Дзённіку”, была здзейснена воля Езуса Хрыста.

Вернікі ўсяго свету бачылі шчыры выраз твару і яснасць позірку Яна Паўла II. У медыях яго называлі “Папам усмешкі”. Пры гэтым у жыцці яшчэ малады Караль Вайтыла перажыў шмат цяжкасцей. Маючы 9 гадоў, страціў маці. Праз некаторы час памёр і брат. Меў асабісты досвед вайны, калі давялося перарваць навучанне ва ўніверсітэце і пайсці працаваць на фабрыку. Але нягледзячы на гэтыя і іншыя выпрабаванні, ён не страціў аптымізму, заставаўся адкрытым на людзей і свет.

> *Пасланне Божай міласэрнасці заўсёды было мне блізкім і дарагім. Гісторыя нібыта ўпісала яго ў трагічны досвед II Сусветнай вайны. У тыя цяжкія гады яно было асаблівай падтрымкай і невычэрпнай крыніцай надзеі для ўсяго народа. Гэта быў і мой асабісты досвед, які я забраў з сабой у Апостальскую Сталіцу і які пэўным чынам фарміруе вобраз гэтага пантыфікату.*

Папа Ян Павел II памёр 2 красавіка 2005 года, у вігілію свята Божай Міласэрнасці, свята, якое сам устанавіў 5 гадоў таму. І справа не ў містыцы лічбаў, а ў тым, што вось такія большыя і меншыя “супадзенні” могуць падштурхнуць нас да задумы над прысутнасцю Бога ў жыцці чалавека.

*Кацярына Паўлоўская*

# БОЖАЯ МІЛАСЭРНАСЦЬ – ВЯЛІКІ ДАР

● працяг са с. 1

***Загружаныя, занятыя рознымі справамі і праблемамі паўсядзённага жыцця, часта бездапаможныя перад імі, мы нярэдка задаём сабе падобныя пытанні, на якія не заўсёды можам знайсці дакладныя адказы: "Адкуль ведаем, што Бог міласэрны?", "Чаму павінны ўшаноўваць Божую міласэрнасць?", "Ці патрэбны Богу міласэрныя ўчынкі людзей?". Бог стварыў свет з любові і з самага пачатку вырашыў адарыць гэтай міласэрнай любоўю кожнага чалавека. І ўсё, што існуе, што было створана, увесь Сусвет – тварэнне гэтай міласэрнасці.***

## СВЯТОЕ ПІСАННЕ ПРА БОЖУЮ МІЛАСЭРНАСЦЬ

Аб Божай міласэрнасці сведчыць кожная старонка Бібліі. Практычна ва ўсіх псалмах узнікае, а часта і пераважае думка аб вялікай ласкавасці Стварыцеля, што шукае і ратуе чалавека.

У Старым Запавеце Бог акрэсліваецца як міласэрны, літасцівы, цярплівы, багаты на дабрыню і вернасць. Ён захоўвае сваю ласку ўжо тысячы пакаленняў, прабачае здрады і грэх, але не пакідае іх без пакарання. У Святым Пісанні Старога Запавету Божая міласэрнасць часцей за ўсё адносіцца да мірскога дабрабыту, бо нават прабачэнне грахоў звязана з зямным шчасцем. Толькі ў пазнейшых кнігах Божая міласэрнасць бярэ за падставу будучыя даброты. "Хто спадзяецца на Яго, той зразумее праўду, а верныя будуць трываць пры Ім у любові, бо ласка і міласэрнасць будзе для Яго выбраных" (Мдр 3, 9). Душы справядлівых знаходзяцца ў руках Бога, і хоць яны памерлі, усё ж спачываюць у спакоі і атрымаюць вялікія даброты (параўн. Мдр 3, 1–8).

Новы Запавет захоўвае ранейшую агульную канцэпцыю Божай міласэрнасці, надае ёй больш багаты змест. Бог міласэрны да ўсіх людзей, і прыемны Яму той, хто выконвае Яго волю. У Хрысце і праз Хрыста здзяйсняецца поўнае аб'яўленне Божай міласэрнасці. Той, хто глядзіць на Хрыста, не можа не бачыць у Ім міласэрнасці. Езус не толькі гаворыць пра Божую міласэрнасць і тлумачыць яе праз параўнанні і прыпавесці, але, перш за ўсё, сам яе ажыццяўляе і ўвасабляе, сваімі паводзінамі і ўсімі сваімі дзеяннямі паказвае, што ў свеце існуе любоў, адчувальная да чалавечай крыўды, убоства, слабасці, няшчасця, адным словам – любоў, якая на біблійнай мове называецца міласэрнасцю. Кульмінацыйным момантам аб'яўлення і ўдзялення міласэрнай любові Бога сталі пасхальныя падзеі – справа адкуплення свету і чалавека, мука і смерць Хрыста на крыжы.

## ПАСЛАННЕ КАСЦЁЛА

Праўду пра бязмежную міласэрнасць Бога Езус нагадаў нам у XX стагоддзі праз св. Фаўстыну Кавальскую. "Чалавецтва не знойдзе супакаення, пакуль не звернецца з даверам да Маёй міласэрнасці!" (Дз. 300). Езус патлумачыў с. Фаўстыне, чаму міласэрнасць і любоў з'яўляюцца найвялікшымі атрыбутамі Бога. Па-першае, міласэрнасць аб'ядноўвае стварэнне са Створцам. Па-другое, найбольшую любоў і прорву міласэрнасці можна пазнаць ва ўцелаўленні Слова, у Яго адкупленні. С. Фаўстына заключае, што гэтая прыкмета з'яўляецца самай значнай у Богу.

Ад Святога Айца Яна Паўла II мы ўсе таксама атрымалі місію абвяшчэння Божай міласэрнасці словам і сведчаннем: "Няхай будзе выканана абавязковае абяцанне Пана Езуса, што адсюль павінна выйсці іскра, якая падрыхтуе свет да канчатковага Яго прыйсця. Трэба гэтую іскру Божай ласкі распальваць. Трэба перадаваць свету агонь міласэрнасці" (з гаміліі падчас св. Імшы ў Кракаве-Лагеўніках, 2002 год). Таму мы пакліканы з новым запалам сведчыць пра Бога, багатага на міласэрнасць.

## УНІВЕРСАЛЬНЫ ХАРАКТАР

Пасланне аб Божай міласэрнасці адрасавана кожнаму чалавеку, незалежна ад колеру скуры, расы, нацыянальнасці альбо вызнаваемай веры. Кожны можа маліцца словамі "Езу, давяраю Табе, будзь міласэрны да нас і да ўсяго свету". Кожны можа далучыцца да вялікага руху шанавальнікаў і апосталаў Божай міласэрнасці. Дастаткова выканаць 3 ўмовы, пастаўленыя Панам Езусам: давер да бясконцай міласэрнасці Бога, настойлівасць у малітве і любоў да бліжняга.

Міласэрнасць павінна праяўляцца ў нашым жыцці незалежна ад таго, кім з'яўляемся, дзе знаходзімся, з кім размаўляем ці якую працу робім. Яна адорвае цярплівасцю і спакоем, нават калі наша паўсядзённае жыццё вельмі складанае і калі губляем усякую надзею. Міласэрныя мы – і Бог міласэрны да нас.

## ПЛЁН МІЛАСЭРНАСЦІ

Тым, хто набліжаецца да Яго міласэрнасці, Езус дае вялікія абяцанні, але ў той жа час ставіць патрабаванні. "Жадаю ад цябе ўчынкаў міласэрнасці, якія павінны выходзіць з любові да Мяне. Міласэрнасць неабходна аказваць бліжнім заўсёды і ўсюды. […] Я даю табе 3 спосабы аказання міласэрнасці іншым: першы – учынак, другі – слова, трэці – малітва" (Дз. 742).

Знакам таго, што сваім даверам мы зачарпнулі з крыніцы Божай міласэрнасці, будзе любоў, аказаная бліжнім. Чым больш ласкаў атрымаем, тым больш людзей адчуе дабрыню Бога праз нас. Езус хоча паказаць людзям свае рукі і бок. Нашымі далонямі Ён прагне далікатна дакрануцца да людзей, падняць іх і дадаць мужнасці. Такім чынам, набажэнства да Божай міласэрнасці з'яўляецца спосабам выявіць сапраўднае Аблічча Бога і паказаць яго сучаснаму свету.

## БОЖАЯ МІЛАСЭРНАСЦЬ І СВАБОДА ЧАЛАВЕКА

Бог, які ёсць Любоў, стварыў чалавека па сваім вобразе і падабенстве, надзяліўшы розумам і вольнай воляй. Прычым мы валодаем гэтымі рысамі ў такой ступені, што можам нават здрадзіць міласэрнасці Бога, чаго праз спакусы сумненняў спрабуе дабіцца д'ябал.

Пан Езус сказаў с. Фаўстыне, што калі хтосьці пры жыцці не захоча прыняць Яго як міласэрнага Госпада, то ў момант смерці такой асобе давядзецца прыняць Яго як справядлівага Суддзю. Божая міласэрнасць тут і зараз з'яўляецца шансам, але кожны з нас сам вырашае, як ім карыстацца.

## АСАБІСТАЕ ВЫМЯРЭННЕ

Каб быць сведкам міласэрнага Бога, трэба спачатку адкрыцца на Яго прабачаючую любоў, пра якую гаворыць псалом 51. Мы павінны прызнаць свае грахі перад Стварыцелем, давяраючы Яго міласэрнасці. Можам маліцца, як цар Давід: "У паўнаце міласэрнасці Тваёй знішчы беззаконні мае! Чыстае сэрца ствары ўва мне, Божа!". Толькі чалавек з чыстым сэрцам, які хоча цалкам даверыцца Богу, можа быць сведкам Яго міласэрнасці. Сэрца, вочы, рукі, ногі і вусны тады становяцца поўнымі спачувальнай і прабачаючай любові (параўн. Дз. 163). Няма для чалавека іншай крыніцы надзеі і ўмацавання, акрамя Божай міласэрнасці. Менавіта таму мы хочам з верай паўтараць за св. Фаўстынай: "Езу, давяраю Табе!".

Сутыкаючыся з духоўнай згубленасцю сучаснага чалавека, трэба зноў браць прыклад з мужнасці святых. Нам неабходна тое вялікае жаданне змяняць сэрцы, якое яны мелі. Трэба аздаравіць і з'яднаць нутро, бо менавіта ў сэрцы нараджаюцца грахі (параўн. Мц 15, 19). Бог цярплівы, таму Ён дае нам час на навяртанне. Ён заўсёды першы працягвае руку ў жэсце прабачэння. Няхай нашы сэрцы закране любоў, што выцякае з міласэрнага Сэрца Езуса, якое гаворыць пра Сэрца Айца. Давайце дазволім гэтай любові ахапіць нас!

*Падрыхтавала*
*Кінга Красіцкая*



*Абраз Езуса Міласэрнага належыць да найбольш вядомых і ўшаноўваемых абразоў у сучасным Касцёле. Адзін з іх устаноўлены ў галоўным алтары ў касцёле Божай Міласэрнасці ў Лідзе*



## *САПРАЎДНАЯ БОЖАЯ МІЛАСЭРНАСЦЬ. ЯК ЯЕ СПАЗНАЦЬ?*

***У дзённіку св. Фаўстыны Кавальскай "Міласэрнасць Божая ў маёй душы" чытаем, як Пан Езус гаворыць: "Душы гінуць, нягледзячы на Маю горкую муку. Я даю апошні шанс для ратунку – свята Маёй міласэрнасці. Калі яны не ўшануюць Маёй міласэрнасці, то загінуць навекі" (Дз. 965). Але якая яна – сапраўдная Божая міласэрнасць? І як яе атрымаць?***

*Уцёкі да Божай міласэрнасці з'яўляюцца апошнім шансам на выратаванне для пакутуючага ад зла чалавецтва. Яе можна дасягнуць праз:*

***1. Пазнанне сапраўднага вобраза Бога як любячага Айца*** *– справядлівага, міласэрнага, усемагутнага, жадаючага дабра і блізкага кожнаму чалавеку, шануючага яго свабоду, церпячага па прычыне людскіх грахоў і нядолі. Такі вобраз Бога прадстаўляе нам сам Божы Сын у прыпавесці пра міласэрнага айца і блуднага сына (параўн. Лк 15, 11–31).*

***2. Пазнанне сваёй грэшнасці ў суаднясенні яе да Бога.*** *У Бібліі чытаем, як габрэі, якія наракалі падчас вандроўкі ў пустыні, пасля пакарання ў выглядзе ядавітых змей прыходзяць да Майсея і кажуць: "Зграшылі мы, бо казалі супраць Пана і супраць цябе. Памаліся да Пана, каб Ён аддаліў ад нас змей" (Ліч 21, 7). Габрэі прызналі свой грэх і таму прасілі аб міласэрнасці. Няправільным было б, калі б чалавек, які часта сваімі правінамі даводзіць сябе да цярпенняў, чакаў, што Бог акажа яму міласэрнасць, калі не прызнае ўласнай грэшнасці і не пастановіць выправіцца.*

***3. Усведамленне каштоўнасці Божай міласэрнасці.*** *За яе заплачана бязлітаснай мукай і жудаснай смерцю Божага Сына. "Бо расплата за грэх – смерць, а дар Бога – жыццё вечнае ў Хрысце Езусе, Пану нашым" (Рым 6, 23). Усведамленне гэтага дапаможа пазбягаць свядомага і дабравольнага граху як няўдзячнасці і подласці, а таксама ўпадзення ў крайнасць – празмернага спадзявання на Божую міласэрнасць.*

***4. Давер Богу як Таму, хто здольны аказаць міласэрнасць, даць патрэбныя ласкі і вечнае збаўленне.*** *"Спадзяюся на Пана, спадзяецца душа мая на Яго слова […], бо ў Пана міласэрнасць і шчодрае ў Яго адкупленне" (Пс 130 (129), 5. 7). "Я цвёрда спадзяваўся на Пана, і Ён схіляўся нада мною, і пачуў мой крык. Падняў мяне з ямы пагібелі, з балоцістай багны, паставіў на скале мае ногі, умацаваў крокі мае (Пс 40 (39), 2–3). Іуда-здраднік усвядоміў свой грэх, раскаяўся, але не паверыў у тое, што Езус здольны яго прабачыць і дапамагчы (параўн. Мц 27, 3–5). Пётр жа ў адрачэнні ад Хрыста шчыра каяўся і верыў у прабачэнне (параўн. Ян 21, 17).*

***5. Просьба аб міласэрнасці і пакорнае яе прыняцце як дару.*** *У сцэне ўкрыжавання "адзін з павешаных злачынцаў зневажаў Яго, кажучы: «Ці ты не Хрыстос? Ратуй сябе і нас». Але другі папракнуў яго, кажучы: «Нават Бога ты не баішся, хоць маеш тую самую кару? Мы асуджаны справядліва, бо атрымліваем належнае за нашыя ўчынкі. Ён жа нічога дрэннага не зрабіў». І сказаў: «Езу, узгадай мяне, калі прыйдзеш у сваё Валадарства». А Езус адказаў яму: «Сапраўды кажу табе: сёння будзеш са Мною ў раі»" (Лк 23, 39–43). Не можа атрымаць Божай міласэрнасці той, хто аб ёй не просіць і хто не каецца, каб яе заслужыць.*

*Кс. Павел Раманоўскі*

# СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### *Папа Францішак*



*Дзе Бог канчаткова адкрыўся? На крыжы. Тут мы пазнаём рысы Яго Аблічча. Не будзем забываць, Браты і Сёстры, што крыж – гэта кафедра Бога. Нам будзе карысна ў маўчанні скіраваць позірк на распяцце і паглядзець, кім ёсць наш Збаўца: Ён не паказвае пальцам нават на тых, хто Яго ўкрыжаваў, але хоча абняць усіх; не прыгнятае сваёй хвалой, але адракаецца ад усяго дзеля нас; любіць не на словах, але моўчкі дае нам жыццё; не прымушае, а вызваляе; не адносіцца як да чужых, але бярэ на сябе наша зло, бярэ на сябе нашы грахі. Таму, каб вызваліцца ад забабонаў адносна Бога, будзем глядзець на распяцце. А потым адкрыем Евангелле. У гэтыя дні, калі ўсе знаходзяцца на каранціне дома, ізаляваныя, возьмем у рукі гэтыя дзве рэчы: будзем глядзець на распяцце і разгорнем Евангелле. Гэта павінна стаць для нас, скажам так, хатняй літургіяй, бо ў бліжэйшыя дні не можам пайсці ў касцёл. Распяцце і Евангелле!*

*Фрагмент прамовы падчас агульнай аўдыенцыі ў Ватыкане, 08.04.2020*

### *Кс. бп Аляксандр Кашкевіч*



*На самым пачатку сваёй місіі Пан Езус прагне падкрэсліць, што Яго найважнейшай задачай як Месіі з'яўляецца абвяшчэнне Божай любові, ласкі і прабачэння. Таксама і ў размове з Нікадэмам Пан Езус кажа прама, што "не паслаў Бог Сына свайго ў свет, каб судзіць свет, але каб свет быў збаўлены праз Яго" (Ян 3, 17). Будучы святарамі моцай сакраманту пасвячэнняў мы асаблівым чынам удзельнічаем у адзіным і вечным святарстве Езуса Хрыста. Мы былі выбраны Ім, пакліканы і пасланы, каб быць цэлебрантамі, г. зн. прыладамі Яго бясконцай любові і бязмежнай міласэрнасці. […] Нашым святарскім словам і ўчынкам, а найперш моцай ласкі Божай, мы павінны аглядаць і лячыць зламаныя людскія сэрцы, нястомна абуджаць у іх веру і надзею, паказваць людзям Аблічча Бога як любячага Айца, багатага на міласэрнасць і прабачэнне.*

*Фрагмент гаміліі падчас св. Імшы Хрызма ў гродзенскай катэдры, 09.04.2020*

### *Кс. бп Антоній Дзям'янка*



*Нашы рукі існуюць для таго, каб у сучасным свеце не толькі абвяшчаць міласэрнасць, але і чыніць, несці яе. Мы пасланыя адшукваць тых, хто пакрыўджаны лёсам у нашых парафіях. А можа, пакрыўджаны іншымі асобамі, арганізацыямі, установамі. І мы пакліканы таксама патрабаваць ад іх міласэрнасці і справядлівасці.*

*Фрагмент гаміліі падчас св. Імшы Хрызма ў пінскай катэдры, 09.04.2020*




◆ *Святы Айцец Францішак адкрыў дабрачынны фонд з мэтай дапамогі церпячым ад пандэміі каронавіруса. Атрыманыя сродкі будуць накіраваны на падтрымку дзейнасці шматлікіх медыцынскіх устаноў, прытулкаў, дамоў састарэлых і інш. Пантыфік заклікаў Касцёл ва ўсім свеце далучыцца да ініцыятывы і ад свайго імя зрабіў першы ўзнос памерам 750 тысяч даляраў. Ахвяраванні можна пералічыць на спецыяльны рахунак Адміністрацыі Папскіх місійных ініцыятыў (Amministrazione Pontificie Opere Missionarie): IT84F0200805075000102456047 (SWIFT UNCRITMM) з пазнакай "Fund Corona-Virus".*

◆ *Ордэн св. Віятора ў Чыкага (ЗША) ахвяраваў 63 тысячы даляраў для ўтрымання ў гасцініцах бяздомных, якія не маюць месца для самаізаляцыі ў часы аб'яўленай пандэміі. Разам з некамерцыйнай арганізацыяй "Джорніс: Дарога дадому" яны аб'ядналіся, каб забяспечыць на 3 тыдні прытулак 90 асобам без пэўнага месца жыхарства. Арганізацыя таксама забяспечвае бяздомных прадуктамі харчавання, пастаўляе адзенне, ажыццяўляе паштовыя паслугі і аказвае першую неадкладную дапамогу.*

◆ *У Польшчы выяўлены рэліквіі ўханскага мучаніка св. Жана Габрыэля Пербуара (1802–1840). Яны захоўваюцца ў сейфе парафіі Унебаўзяцця НПМ і св. Мікалая ў Баляслаўцы. Аб гэтым сведчыць надпіс на шыльдачцы рэлікварыя, які датуецца 1917 годам. Адносна нядаўна ў парафіі сталі вывучаць біяграфію святога і высветлілі, што ён быў замучаны і забіты за веру ва Ухане (Кітай) – горадзе, адкуль пайшла эпідэмія каронавіруса. У сувязі з гэтым вырашана, што рэліквіі мучаніка выставяць у мясцовай святыні для ўшанавання да сканчэння пандэміі.*

◆ *CORONA(ANTI)VIRUS – малітоўная інтэрнэт-эстафета, ініцыяваная ў Італіі. З-за адсутнасці магчымасці ўдзельнічаць у Эўхарыстыі вернікі мабілізаваліся на кругласутачнае адгаворванне ружанца. Няспынная малітва трывае ў інтэнцыі ўсіх людзей, якія так ці інакш пацярпелі ад пандэміі каронавіруса. Далучыцца да ініцыятывы можна па спасылцы recode.digital/corona-anti-virus (трэба ўпісаць сваё імя, горад і выбраць зручныя паўгадзіны для малітвы).*

◆ *Сталы сінод Праваслаўнай Царквы Грэцыі пастанавіў перанесці адзначэнне свят Уваскрасення Пана на 26–27 мая (у гэтым годзе Вялікдзень прыпадае на 19 красавіка). Тады павінны распачацца працэсіі вакол царквы перад урачыстымі усяночнымі пасхальнымі літургіямі. Між іншым, сінод заклікаў духавенства да захавання ўсіх распараджэнняў службы аховы здароўя і кіраўніцтва, дадаючы, што невыкананне іх "у дадзены момант не апраўдана нават у імя хрысціянскай веры", таму што яна "вядзе да жыцця, а не да смерці".*

*vaticannews.va; credo.pro; ekai.pl*

# "Спакой вам!", альбо аб Божай міласэрнасці сёння

Гэта праўда, што ў кантэксце сучаснай сітуацыі, у якой апынуўся цэлы свет, усе разважанні, падзеі і ўрачыстасці разглядаюцца ў святле пандэміі. Падобным чынам адбываецца, верагодна, калі спрабуем разважаць над таямніцай Божай міласэрнасці, пра якую Касцёл нагадвае нам у нядзелю, што наступае пасля ўрачыстасці Уваскрасення Пана.

Асабіста мне прыходзяць у галаву словы адной з вядомых песень аб Божай міласэрнасці: "Нашы планы і надзеі штосьць нявечыць кожны раз, толькі міласэрнасць Бога ніколі не падводзіць нас". Ва ўсіх нас, напэўна, былі нейкія планы на перажыванне сёлетняга Вялікадня: сустрэча з роднымі, супольны сняданак, папярэджаны ўдзелам у Пасхальным Трыдууме, магчыма, яшчэ нейкія намеры на бліжэйшую ці далёкую будучыню. Аднак пакуль усё выглядае інакш. Мы нешта задумвалі і збіраліся зрабіць, але, як паказваюць актуальныя падзеі, нашы планы, мары ды мэты павінны пачакаць. Такая рэальнасць.

З іншага боку, з усяго таго, што адбываецца вакол, адно застаецца пэўным і нязменным: праўда пра ўваскрасенне нашага Пана і Збаўцы Езуса Хрыста, якую мы як веруючыя людзі ўспамінаем вякамі. Змяняюцца поры года, змяняюцца палітычныя сістэмы, змяняюцца людзі і іх паўсядзённасць, а праўда аб уваскрасенні Хрыста застаецца нязменнай. Яна вышэй за ўсё і будзе суправаджаць чалавека ажно да другога прыйсця Хрыста.

У святле гэтай найважнейшай ісціны веры Каталіцкі Касцёл ужо на працягу 20-ці гадоў пасля нядзелі Уваскрасення Пана асаблівым чынам нагадвае людзям аб Божай міласэрнасці. Камусьці можа здавацца, што разважаць і гаварыць пра міласэрнасць Бога да ўсяго чалавецтва і кожнага чалавека пачалі не так даўно. Аднак пра гэтую праўду мы ўжо шмат разоў чулі ў Старым Запавеце, асабліва ў Кнізе Псалмоў, дзе ўзгадваецца пра вялікую ласкавасць Бога, які шукае нас, каб збавіць. Божая ласка адносна чалавека велізарная (параўн. Пс 103; Пс 138). Варта дарычыць Госпаду свой шлях і даверыцца Яму (параўн. Пс 37).

Новы Запавет таксама багаты на фрагменты, якія прыгадваюць пра Бога, міласэрнасць якога з пакалення ў пакаленне (параўн. Лк 1, 50), які праяўляе яе да айцоў нашых і нагадвае пра свой святы запавет – прысягу, што даў айцу нашаму Абрагаму (параўн. Лк 1, 72–73). Такім чынам, вернікам здаўна спадарожнічае ўсведамленне велічы міласэрнасці Бога.

Сённяшняя ўрачыстасць нарадзілася з паслання, атрыманага св. Фаўстынай Кавальскай: каб у нядзелю пасля Вялікадня ўшаноўваць Божую міласэрнасць (параўн. Дз. 280). Яна заклікае чалавека падняцца і пакінуць усё, што пагружае ў грэх, усялякае зло і несправядлівасць, заклікае навярнуцца, змяніць свой напрамак і шлях. Гэтая ўрачыстасць з'яўляецца для кожнага з нас заахвочваннем, каб звяртацца да добрага Бога словамі псалма 51: "Змілуйся нада мною, Божа, у вялікай міласці Тваёй і ў паўнаце міласэрнасці Тваёй знішчы беззаконні мае. Абмый цалкам мяне ад правінаў маіх і ачысці мяне ад граху майго".

У чарговы раз і ў тых абставінах, у якіх знаходзіцца ўвесь свет, мы павінны ўзгадаць, што для чалавека няма іншай крыніцы надзеі і ўмацавання, акрамя Божай міласэрнасці. Усемагутны заўсёды застаецца для людзей Крыніцай сапраўднай радасці і любові, сапраўднага шчасця, да якога імкнёмся. Магчыма, многія з нас у пэўны момант свайго жыцця былі падобныя да блуднага сына (параўн. Лк 15, 11–32), і здавалася, што адышлі занадта далёка ад Айца. Але таямніца Божай міласэрнасці нагадвае, што варта вяртацца да Стварыцеля, нягледзячы ні на што, каб, можа, у чарговы раз у абдымках міласэрнага Айца прыгадаць, што з'яўляемся дзецьмі Божымі і што наша правільнае месца – побач з Ім, і там мы сапраўды можам быць самімі сабой.



Разважаючы пра Божую міласэрнасць, неабходна, на маю думку, звярнуць увагу на Евангелле, якое чуем у літургіі слова ў II Велікодную нядзелю (параўн. Ян 20, 19–31). Падчас сустрэчы з апосталамі Хрыстос звяртаецца да іх словамі "Спакой вам", тым самым умацоўваючы і дадаючы сіл. Божая міласэрнасць напаўняе чалавека спакоем, дапамагае перамагчы трывогу і страх, дае сілы і бадзёрасць. І не трэба ўспрымаць гэта толькі як прыгожыя і завучаныя словы. Незалежна ад таго, што адбываецца і як будзе выглядаць наша будучыня, варта прыпасці да міласэрнага Бога, каб радасць ад уваскрасення Пана суправаджала нас не толькі тады, калі ўсё добра і ідзе, як запланавалі, але таксама калі перажываем цяжкасці і няўдачы. "Няхай не трывожыцца сэрца вашае... Я – дарога, і праўда, і жыццё" (Ян 14, 1. 6). Такія словы Хрыстос скіраваў сваім вучням, і кіруе іх таксама нам, каб даверыліся Богу і яшчэ больш прытуліліся да Таго, якому належыць увесь свет і яго жыхары (параўн. Пс 24).

Сёння, накіроўваючы свой позірк у бок міласэрнага Айца ў Небе, разважаючы над таямніцай Яго міласэрнасці, давайце выкарыстаем словы св. Фаўстыны з яе паслання: "Езу, давяраю Табе!".

*Кс. Ян Раманоўскі*




**Гледзячы на ўкрыжаванага, акрываўленага з галавы да ступняў Езуса, кожны хрысціянін разумее, што гэтая Кроў пралілася з вялікай любові да чалавека. Мы прыступаем да сакраманту споведзі і прымаем Эўхарыстыю, каб ачысціць сваю душу ад бруду грахоў і паяднацца з Богам. Гэта найбольш распаўсюджанае разуменне дзеяння Крыві Збаўлення сярод вернікаў. Аднак каб поўнасцю зразумець усю неабмежаванасць скарбаў, да якіх мы маем доступ праз гэтую каштоўную Ахвяру, і наколькі вялікая моц яе дзеяння ў душы і жыцці чалавека, неабходна ўслухацца ў Божае слова.**

### АЧЫШЧЭННЕ І АПРАЎДАННЕ

"Амаль усё паводле Закону ачышчаецца крывёю, а без праліцця крыві не бывае даравання" (Гбр 9, 22). Гэта менавіта Кроў Баранка, прынятая ў Камуніі, сцірае з людской памяці даўгавы запіс старадаўняй віны, "ачышчае сумленне ад мёртвых учынкаў" (параўн. Гбр 9, 14) і ўспамінаў пра здзейсненыя грэх, змывае пачуццё бруду, нячыстасці, нягоднасці і збянтэжанасці. "Калі грахі вашыя будуць, як чырвань, збялеюць, як снег; калі будуць барвовыя, як пурпур, стануць, як воўна" (Іс 1, 18), як толькі будуць акунутыя ў Кроў.

Бог, бачачы прынятую Кроў Наймілайшага Сына, больш не заўважае граху і не памятае яго (параўн. Гбр 10, 17), а д'ябал губляе ўсялякае права на абвінавачванне і ўладу над душой, таму што адбываецца апраўданне ў вачах Бога. Уся натура чалавека абмываецца з плямы бяспраўя і амаральнасці, а душа зноў становіцца чыстай, быццам ніколі да таго не грашыла.

### АСВЯЧЭННЕ І АДНАЎЛЕННЕ

Божае слова неаднаразова паўтарае, што Езус праліў сваю Кроў дзеля асвячэння чалавека, каб той мог праблізіцца да Святога Бога. Толькі і выключна дзякуючы прынятай ахвяры Крыві, Святы Дух можа сысці і пасеяць насенне Божага закону ў сэрцах і розумах (параўн. Гбр 10, 10–17), абуджаючы замілаванне да святасці, захавання запаведзей і пазнання Божага слова.

Колькі ж ёсць людзей, якія ведаюць запаведзі і чытаюць Біблію, аднак маюць велізарныя праблемы з захаваннем маральных законаў і жывуць у бясконцых падзеннях і зняволеннях. Так стаецца, таму што яны не прымаюць Кроў Хрыста ў сваім жыцці. "Калі не будзеце спажываць Цела Сына Чалавечага і піць Крыві Ягонай, не будзеце мець у сабе жыцця" (Ян 6, 53).

Прымаючы Кроў, чалавечая сутнасць духоўна прышчэпліваецца да "вінаграднай лазы" (параўн. Ян 15, 5), якой з'яўляецца сам Езус, і чалавек становіцца Яго жывой галінай, у якой пачынае цячы Яго Кроў. У выніку, праз намашчэнне Святога Духа, чалавек становіцца новым, больш дасканалым стварэннем з чыстымі думкамі, жаданнямі, імкненнямі і вартасцямі. Ён перастае атрымліваць асалоду ад граху, а пачынае яго ненавідзець. Раптам там, дзе панаваў дух нячысты і замілаванне да рэчаў гэтага свету, разбураюцца ўсе сцены пыхлівасці, эгаізму, хцівасці, гардыні, пагарды, разрываюцца нават наймацнейшыя ланцугі зняволенняў. Некалі скамянелае і грубае сэрца робіцца ціхім, лагодным, пакорным і пачынае прыносіць новыя плён у сваім жыцці, такі як: любоў, радасць, згода, цярплівасць, ласкавасць, дабрыня, далікатнасць, лагоднасць, вернасць, сціпласць, стрыманасць і чыстасць. Трываючы ў Езусе, чалавек пачынае духоўна даспяваць да пастаў любові і міласэрнасці да іншых людзей і становіцца пасланнікам самога Бога на зямлі.

### ВЫЗВАЛЕННЕ І ТРЫУМФ НАД МОЦАМІ ЦЕМРЫ

Кроў Збаўцы не толькі змывае грэх, але таксама вызваляе з яго няволі і ліквідуе жаданне нячыстасці ў сэрцы чалавека. Яна дае звышнатуральную сілу рашуча супрацьстаяць спакусе ў будучыні. Як Езус у пустыні прагнаў д'ябла, так і мы, маючы ўдзел у Яго Крыві, атрымліваем моц адказаць д'ябальскім нашэптванням станоўчае: "Ідзі прэч!".

Мы перамагаем усялякую справу нячыстага "дзякуючы Крыві Баранка і слову сведчання свайго" (Ап 12, 11). Кожны раз, калі з верай прызываем Кроў Збаўлення і пераможна абвяшчаем, што яна для нас здзейсніла, гэта нагадвае ўсяму пеклу пра паражэнне, абяззбройвае моц цемры і знішчае яго справы. "Вось Я даў вам уладу наступаць на змеяў і скарпіёнаў, і на ўсю варожую сілу, і нішто не пашкодзіць вам" (Лк 10, 19). Д'ябальскія легіёны не могуць перакрочыць мяжы, дзе з верай прымаюць і заклікаюць Кроў Хрыста. Наша непахісная вера з'яўляецца ключом, што адчыняе дзверы да Сэрца Езуса, дзе можам бяспечна схавацца.

*Людвіга Цыдзік*

**Працяг у наступным нумары**



# КАБ "ПРЫПЯЦЬ" НЕ РАСЦЯГНУЛАСЯ: КОШТАМ СВАЙГО ЖЫЦЦЯ

**26 КРАСАВІКА ПРЫПАДАЕ ЧАРГОВАЯ ГАДАВІНА З ДНЯ АВАРЫІ НА ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ АТАМНАЙ ЭЛЕКТРАСТАНЦЫІ, ЯКАЯ СТАЛА САМАЙ БУЙНОЙ У ГІСТОРЫІ ЯДЗЕРНАЙ ЭНЕРГЕТЫКІ. ПРА ПАДЗЕІ ПЕРШЫХ ДЗЁН ПАСЛЯ КАТАСТРОФЫ І АДЗІН З ГАЛОЎНЫХ УРОКАЎ, ЯКІ МОЖНА ВЫНЕСЦІ З ТРАГЕДЫІ, РАСПАВЯДАЕ ВАЕННЫ ХІМІК З ГРОДНА ГЕНАДЗЬ МАРЧУК.**

***– Спадар Генадзь, распавядзіце, калі ласка, якім чынам Вы трапілі на месца аварыі на Чарнобыльскай АЭС у якасці ліквідатара?***

– Добра памятаю, што загад накіравацца ў Чарнобыль атрымаў перад самым Вялікаднем, які ў той 1986 год святкавалі 4 мая. Я служыў ва ўзброеных сілах у складзе трэцяй брыгады хімічнай абароны ў расійскім горадзе Кінешма. Гэта была адмысловая вайсковая частка, якая па сваіх прафесійных магчымасцях магла выконваць задачы па ліквідацыі наступстваў аварыі.

Адразу пачалася інтэнсіўная падрыхтоўка: фарміравалі эшалоны з тэхнікай, прыцягвалі асабовы склад. Я адчуваў сябе вінцікам у магутнай машыне. Быў тады маладым афіцэрам, поўным рамантызму. Удзел у падобным мерапрыемстве расцэньваў як важную місію.

***– Якія канкрэтна дзеянні праводзіліся?***

– На тэрыторыі Чарнобыльскай зоны размясціўся навуковы штаб, дзе пастаянна вяліся дыскусіі па прадпрымаенні мер па ўхіленні наступстваў аварыі. Аднак улічваючы, што атамшчыкі ўпершыню сутыкнуліся з падобнай катастрофай, большасць рашэнняў прымалася "метадам тыку".

Працы па ліквідацыі наступстваў пачалі з вёсак. Мылі дахі дамоў. Апрацоўвалі адмысловым растворам лясы і дарогі, каб утрымаць і не дапусціць распаўсюджання радыёактыўнага пылу, не дазволіць радыяцыі выйсці за тую тэрыторыю, дзе яна знаходзілася. Таксама перакопвалі грунт. Калі радыёактыўная гразь з рэактара падала на зямлю, мы яе проста пераварочвалі, і яе ўжо станавілася крыху менш.

Пасля было вырашана таму толькі на наш аб'ект прыходзілася 12 каманд, кожная з якіх працавала па 2 гадзіны.

Мяркую, што частка выкананых дзеянняў была памылковай, але галоўнае – мэты ўдалося дасягнуць. У верасні "дзірку" рэактара прыкрылі саркафагам, стрымаўшы паток радыяцыі.

***– Што ўзгадваеце як самае цяжкае падчас ліквідацыі?***

– Вар'яцкую спякоту, якая стаяла на працягу ўсяго лета. А працаваць мы павінны былі ў гумовым камплекце. Процівагазы, плашчы, бахілы і пальчаткі – гэта ўсё, што было ў нас на ўзбраенні. Некаторыя хлопцы, з больш слабым арганізмам, трацілі прытомнасць у такім абмундзіраванні. Калі высветлілася, што ўздзеянне радыяцыі можа стрымаць толькі бункер або асвінцаваныя касцюмы, ў выглядзе бірулькі, якая ўстаўлялася ў адмысловую прыладу. Сутачная доза радыяцыі не магла перавышаць 1,8 рэнтген. За ўвесь перыяд працы ліквідатар мог атрымаць максімум 25 рэнтген – тады меў магчымасць трапіць дадому.

З гэтымі разлікамі напачатку ўзнікалі цяжкасці. Мужчыны, якія хацелі як мага хутчэй вярнуцца да сваіх сем'яў, імкнуліся знайсці самыя забруджаныя месцы і, адпаведна, як мага хутчэй апрамяніцца да патрэбнага паказчыка. Рызыкі смерці пры такім хуткім апрамяненні яны не ўсведамлялі. Часам патрэбна было адсядзець некалькі дзён у лагеры перад тым, як пачуеш дазвол ісці працаваць.

Перад кожнай вылазкай ліквідатараў у радыёактыўную зону спецыяльныя людзі ездзілі і вымяралі ўзровень радыяцыі пэўнай мясцовасці.



Генадзь Марчук (справа) у лагеры ліквідатараў

Разам з іншымі афіцэрамі я атрымаў заданне сабраць людзей для ўдзелу ў ліквідацыі. Аднак нас прасілі не ўказваць, для чаго гэта патрэбна. Таму тлумачылі байцам, што едзем на вучэнні ў Беларусь. Шчыра кажучы, не было ніякай трывогі адносна будучай ліквідацыі, толькі цікавасць. Пачуццё адноснага спакою абумоўлівалася таксама тым, што і нам, афіцэрам, не маглі да канца акрэсліць сітуацыю, бо ніхто не ведаў, на які канкрэтна ўчастак паедзем і які аб'ём працы будзем выконваць. Пастаноўка задачы адбывалася па прыбыцці на месца.

У выніку мы апынуліся ў 30-ці кіламетрах ад эпіцэнтра катастрофы. Там і разбілі лагер. Многім, у тым ліку і групе пад маім камандаваннем, давялося працаваць у непасрэднай блізкасці да рэактара – 200 метрах. класці бетонныя пліты на зямлю, таму вялікія плошчы пабач са станцыяй забетаніраваны. Перад гэтым здымалі радыёактыўны грунт, які грузілі ў кантэйнеры і перавозілі на асвінцаваных камазах у сховішча ядзерных адходаў. Мелася спецыяльная агароджаная пляцоўка на тэрыторыі самой станцыі, вельмі блізкая да рэактара. Мяне прызначылі камандзірам групы, якая займалася выкананнем гэтай задачы.

Калі прыязджаў камаз, мы па камандзе з рацыі хутка выбягалі з бункера і ў такім жа рытме выконвалі працы. Я ў гэты момант не пераставаў сачыць за часам і паказчыкамі радыяцыі, каб лішнія секунды не знаходзіцца пад апраменьваннем. Каб гэтага не дапусціць, адна каманда не магла працаваць доўга. Ліквідацыя не павінна была спыняцца ні на хвіліну, нам выдалі звычайную вопратку са шчыльнай баваўнянай тканіны, якая падлягала знішчэнню пасля заканчэння кожнай змены.

Памятаю, што ў спякоту чакалі хаця б маленькай палёгкі ад надвор'я. Аднак хмары ў небе разганяў самалёт. Гэта рабілася для таго, каб дождж не змыў спецсастаў, які мы распылялі па ўсёй тэрыторыі. Ён паніжаў агульны радыёактыўны фон да ўзроўню, прыдатнага для жыцця.

***– Як увогуле здзяйсняўся кантроль над ступенню апраменьвання людзей?***

– Сачылі за гэтым працэсам афіцэры і камандзіры груп. Разам з тым, кожны з удзельнікаў ліквідацыі меў пры сабе індывідуальны прыбор уліку ўзроўню радыяцыі – спачатку ў выглядзе шарыкавай ручкі, пасля Паказчыкі маглі моцна адрозніваецца: напрыклад, у адным месцы ступень радыяцыі меншая, а праз кіламетр адлегласці – у разы большая. Гэтае веданне дапамагала нам зрабіць разлік, колькі часу трэба правесці ў дадзенай зоне, каб не перашчыраваць з дозай апраменьвання.

***– Якія праблемы са здароўем Вы мелі пасля заканчэння ліквідацыі?***

– Складана даць дакладны адказ. У той перыяд я быў спартыўным, моцным хлопцам, а з цягам часу ўзнікалі тыповыя ўзроставыя хваробы. Да таго ж, медыкі тады мелі цыркуляр, які забараняў ім ставіць дыягназы, звязаныя з аварыяй на Чарнобылі. Яго дазвалялася парушаць толькі ў крайніх выпадках, калі выразна праглядалася прамянёвая хвароба.

Дарэчы, узгадваю два кантрасныя прыклады ўздзеяння радыяцыі: на здаровых салдатаў і на маёра з пабітым воспай тварам. Хлопцы пасля ліквідацыі сталі бясплоднымі, а ў мужчыны твар стаў чысты, як у немаўляці.

***– Што для Вас з'яўляецца самым страшным у Чарнобыльскай катастрофе?***

– Маленькія трагедыі асобных людзей, з якіх складалася мазаіка агульначалавечай бяды. Я нават не кажу пра набытыя хваробы і смерці, якіх была незлічоная колькасць. Здараліся і іншыя драматычныя выпадкі: жыхары, якія засталіся без прытулку; маці, якую разлучылі з дзіцём падчас эвакуацыі, размеркаваўшы паасобку ў розныя аўтобусы і накіраваўшы ў розных напрамках; недзеяздольная бабуля, якая засталася адна ляжаць у хаце пасля вываду ўсёй вёскі...

Разам з тым, я заўсёды з гонарам узгадваю і распавядаю пра падзеі таго года: вялікімі чалавечымі рэсурсамі было прадухілена штосьці страшнае. Калі б не асабісты подзвіг кожнага з ліквідатараў, не быў бы выкананы такі аб'ём працы з такой інтэнсіўнасцю, і "Прыпяць" расцягнулася б на велізарныя тэрыторыі. Адвага, адданасць і дабрачыннасць удзельнікаў ліквідацыі дадала мне веры ў чалавецтва.

Шкада толькі, што на дадзены момант паняцце "ліквідатар" у нашай краіне скасавана. Людзей, якія непасрэдна займаліся ліквідацыяй, афіцыйна залічылі да шэрагу пацярпелых ад наступстваў аварыі. Такім чынам, мы растварыліся ў масе перасяленцаў. А хочацца хаця б найменшага: ведаць, колькі нас засталося і часам сабрацца разам...

***Сапраўды, хоць у атэістычныя часы савецкая ўлада намагалася выгнаць Бога з людскіх сэрцаў, ахвярныя ўчынкі ліквідатараў у экстрэмальных умовах сведчаць пра тое, што складана выкараніць з чалавека святло, закладзенае Усявышнім. Подзвіг герояў наглядна паказвае, што любоў да бліжняга жыве: яна закладзена ў самой сутнасці чалавечага стварэння.***

***Няхай жа Чарнобыльская трагедыя будзе не толькі сімвалам нядобрасумленных рашэнняў і загубленых лёсаў, але і сведчаннем таго, што нават у бязбожныя часы хрысціянскія каштоўнасці маюць шанс на перамогу!***

*Ангеліна Марцішэўская*







***Новая святыня***

***Біскуп Алег Буткевіч наведаў маладую парафію ў Віцебску і блаславіў падмуркі касцёла.***

*Архітэктурныя формы святыні, якая ўзводзіцца ў гонар св. Ігнацыя Лаёлы, запраектаваны ў сучасным стылі. Малітоўная частка разлічана на 230 чалавек. Адміністрацыйны блок прадугледжвае размяшчэнне класаў і залаў для заняткаў. Будаўніцтва вядзецца за кошт ахвярадаўцаў. Аб'ект плануецца здаць для публічнага карыстання ў красавіку 2021 года.*

*Парафія св. Уладзіслава ў мікрараёне Білева існуе ў Віцебску з 2008 года. Супольнасцю духоўна апекуюцца айцы езуіты.*




***За жыццё!***

***Вядомая амерыканская спявачка нядаўна прызналася, што яе маці амаль не здзейсніла аборт, калі была ёю цяжарная.***

*У кнізе "More Myself: A Journey" ("Больш сябе: падарожжа"), якая хутка павінна ўбачыць свет, артыстка Аліша Кіз распавядае таксама аб тым, што аказалася ў амаль ідэнтычнай сітуацыі. Прызнаецца, што думала пра аборт, калі даведалася, што зацяжарыла ў другі раз. Спявачка ўзгадвае, што адчувала сябе тады разгубленай, бо, як ёй здавалася, гэта быў горшы з магчымых момантаў для нараджэння дзіцяці. Аднак пастанавіла нарадзіць. У гэтым ёй дапамагла песня "More than we know" ("Больш, чым мы ведаем"). Сын з'явіўся на свет у снежні 2014 года.*




***Казкі з-за клаўзуры***

***Манахіня "вяшчае" ў Facebook з кляштара ў мясцовасці Святы Крыж каля Пізы (Італія).***

*С. Сандра жыве ў старым комплексе сясцёр аўгусцінак. Кожны вечар манахіня расказвае праз інтэрнэт гісторыі, часта рыфмаваныя. Дадае да іх невялікія анімацыі, для якіх выкарыстоўвае марыянеткі. Кожны ролік заканчвае напамінам: "Адна ўсмешка ў дзень дома выганяе прэч вірус".*

*Гісторыі с. Сандры служаць не толькі дзецям, але і даюць хвіліну перадышкі бацькам, зачыненым у чатырох сценах. "Цяпер, калі мы ўсе вымушаны сядзець дома ў сувязі з эпідэміяй каронавіруса, спрабуем быць побач з нашымі вернікамі: дзецьмі і дарослымі", – адзначае манахіня.*




# Калі не маю ўжо сіл, альбо што рабіць з праблемай знясілення?



*Кс. Павел Салабуда, псіхолаг*

Перш за ўсё, варта адзначыць, што да кропкі знясілення чалавек даходзіць паступова. Стан заняпаду сіл можна распазнаць у наступных выпадках: калі перагрузка працягваецца доўгі час і калі яна закранае кожную сферу жыцця. Як правіла, гэта суправаджаецца прыгнечанымі пачуццямі, гневам, раздражняльнасцю і да т. п. У некаторых развіваецца трывога, якую цяжка кантраляваць і якая часта прыводзіць да апантанасці, фобіі ці неўрозу.

Арганізм сігналізуе аб тым, што ён знясілены, у першую чаргу, на фізічным узроўні. Чалавек, часцей за ўсё, кажа: "Я больш не магу, у мяне няма сіл". Прызнаецца, што яму проста ўсё баліць, і ён гэта сапраўды адчувае. На духоўным узроўні таксама перажываецца сур'ёзнае напружанне. Нерэгулярны кантакт з Богам, страх смерці, няўпэўненасць у заўтрашнім дні і вечнасці, а таксама ўсведамленне ўласнай грэшнасці могуць выклікаць хранічны стрэс. Чалавек часта адчувае фізічнае, псіхічнае і духоўнае знясіленне адначасова.

Мы можам назіраць гэтую вялікую праблему ў грамадстве зараз. Большасць людзей вельмі перажываюць, каб не падхапіць новы вірус. Падача штодзённай статыстыкі ў сродках масавай інфармацыі, на жаль, не дае добрага прагнозу на бліжэйшы час. Кожны чалавек рэагуе на гэта па-рознаму: адны ізалююцца дома ў страху заражэння, іншыя ж звяртаюцца ў медыцынскія ўстановы. Нібы ўпэўненыя ў сабе яшчэ ўчора людзі, якія нямала чаго дасягнулі, раптам панікілі.

Уся гэтая сітуацыя вакол каранавіруса стала вельмі напружанай. Праблемай для многіх з'яўляецца прыняцце правільнай паставы ў той момант, калі здаецца, што ўзніклыя цяжкасці перавышаюць магчымасці перанесці іх ці справіцца з імі. Для многіх цяжар становіцца занадта вялікім, і патрэбна знешняя дапамога. Бог карыстаецца бліжнім у працэсе вырашэння праблем і вызваляе нас ад слабасцей і грахоў. Ён ніколі не пакідае чалавека без падтрымкі і дапамогі, абяцае мудрасць і кіраўніцтва тым, хто Яго аб гэтым просіць. Варта ў гэты няпросты час даверыць сваё жыццё Стварыцелю.

Кожны з нас павінен у чарговы раз прыгадаць, што абмежаваны ў сваіх магчымасцях, часе, энергіі і фінансах. Варта ўсвядоміць гэтыя ўласныя межы. Чалавек, а такім чынам і ўвесь свет, павінен вярнуцца да Бога, да Божага кіравання ўласным жыццём у рамках духу, розуму, эмоцый і цела.

Сённяшняя сітуацыя патрабуе выбару часовай адзіноты. Але гэта можа аднавіць нашы сілы, стаць такім неабходным часам побач з блізкімі, часам, праведзеным на малітве з Богам. Няхай гэта будзе перыяд духоўнай моцы, а таксама прыняцце праўды, што не варта разлічваць толькі на ўласныя сілы.

*Пытанні можна дасылаць на электронны адрас* ***solobuda@gmail.com.***




### *Як Касцёл ставіцца да тантра-джйоціш?*

*Вучэнне тантра-джйоціш – гэта традыцыйная дысцыпліна індыйскай культуры, або ведычная астралогія і астраномія (заснаваныя на святых кнігах Ведаў). Касцёл ставіцца з пашанай да вызнаўцаў іншых рэлігій, але забараняе католікам займацца падобнымі рэчамі. Чаму? Астралогія ўвогуле супярэчыць біблійнаму навучанню, прынамсі ў двух пытаннях, бо падтрымлівае веру ў штосьці іншае, а не ў Бога, а таксама з'яўляецца формай праслаўлення. Такія практыкі разыходзяцца з хрысціянскай верай.*

*Немагчыма акрэсліць Божую волю дзякуючы гараскопам. Мы як хрысціяне павінны чытаць Біблію і маліцца да Стварыцеля, каб напоўніцца мудрасцю. Карыстанне такога кшталту рэчамі з'яўляецца парушэннем Божых спосабаў "камунікацыі" са сваімі дзецьмі. Тут ёсць вялікая небяспека таго, што пэўныя жэсты і практыкаванні самі па сабе выступаюць ідалапаклонствам і адкрываюць сэрца чалавека на дзеянне злога духа ў яго жыцці.*

*Натуральна, што індуісцкія фундаменталісты выкарыстоўваюць розныя практыкі веры ў мэтах праявядзення ідэалагічнай экспансіі, каб умацаваць свой рэлігійны ўплыў, асабліва ў еўрапейскіх краінах. Сучаснаму чалавеку, верагодна, лягчэй прыняць экзатычныя звычаі і рытуалы, чым Евангелле, якое заклікае да навяртання.*

*А. Аляксандр Махнач SP*
***Паводле catholicnews.by***

*Дзіцячы куточак*

## *Бог поўны міласэрнасці*

***Аднойчы пэўнаму чалавеку прысніўся сон, нібыта ідзе па пляжы з Хрыстом, а на экране ночы прадстаўлены ўсе дні яго жыцця. Азірнуўшыся назад, чалавек убачыў, што кожны дзень яго вандроўкі адзначаны слядамі дзвюх пар ног на пяску. Дзесьці ён заўважыў толькі адну нітку слядоў. Гэта былі самыя складаныя дні жыцця: дні найбольшых клопатаў, страхаў і цярпенняў. Тады чалавек спытаў:***

***– Пане, Ты абяцаў мне, што будзеш побач ва ўсе дні майго падарожжа. Дык чаму пакінуў мяне ў самыя складаныя моманты?***

***І Пан адказаў:***

***– Сын мой, ты добра ведаеш, што Я паабяцаў быць побач і не пакідаць цябе ні на хвіліну, таму што вельмі цябе люблю. Я стрымаў слова. У тыя дні, калі ты бачыш на пяску сляды толькі адной пары ног, Я нёс цябе на руках…***

*Дарагі Маленькі Чытач! Гэтае кароткае апавяданне расказвае пра любоў Бога да нас, пра Яго апеку і пра тое, што Ён з'яўляецца бясконцай Міласэрнасцю для кожнага чалавека.*

*Што такое міласэрнасць? Насамрэч, вельмі складанае паняцце. Можна сказаць, што міласэрнасць – гэта лякарства, якое прыдумаў Пан Бог, такая рэакцыя на зло, якая дае чалавеку самае неабходнае – любоў і дабрыню. Божая міласэрнасць – самая важная ўласцівасць Бога. Для таго, каб спазнаць яе, трэба вярнуцца да Усемагутнага, прызнаць свае памылкі і прасіць аб міласці. І тады Ён, багаты на міласэрнасць, выйдзе насустрач збаламу і змучанаму чалавеку, каб сустрэць яго, як блудная сына, і адарыць годнасцю дзіцяці Божага.*

*Пра Божую міласэрнасць распавядала людзям св. Фаўстына Кавальская, якая жыла ў XX стагоддзі ў Польшчы. Яна размаўляла з Езусам і запісала Яго словы ў свой дзённік. Бог растлумачыў с. Фаўстыне таямніцу сваёй міласэрнасці і хацеў, каб усе людзі аб гэтым даведаліся.*

*У "Дзённіку" с. Фаўстыны чытаем: "Увечары, калі я знаходзілася ў келлі, убачыла Езуса Хрыста, які быў апрануты ў белае адзенне. Адна Яго рука была паднята для благаслаўлення, а другая дакраналася да адзення на грудзях. Адтуль выходзілі два шырокія прамяні: адзін чырвоны, другі бледны. Моўчкі я ўважліва глядзела на Пана, мая душа была напоўнена пачуццём страху, але таксама і вельмі вялікай радасцю. Потым Езус сказаў: «Я хачу, каб было ўстаноўлена свята Міласэрнасці. Хачу, каб абраз, які ты намалюеш пэндзлем, быў урачыста асвечаны ў першую нядзелю пасля Вялікадня. Гэтая нядзеля павінна стаць святам Міласэрнасці. Я хачу, каб святары прапаведавалі пра Маю вялікую міласэрнасць да грэшных душ. Няхай грэшнік не баіцца прыблізіцца да Мяне. Мяне паліць агонь міласэрнасці. Я хачу выліць яго на душы людзей»" (параўн. Дз. 47–50).*

*Папа Ян Павел ІІ у 2000 годзе ўрачыста ўстанавіў свята Божай Міласэрнасці для Паўсюднага Касцёла. Адзначаецца яно ў ІІ Велікодную нядзелю. "Я хачу, – сказаў Езус, – каб свята Міласэрнасці было ўцёкамі і прытулкам для ўсіх душ, а асабліва для бедных грэшнікаў. У гэты дзень адкрыты глыбіні Маёй міласэрнасці, Я выліваю цэлае мора ласкаў на душы, якія набліжаюцца да крыніцы Маёй міласэрнасці. Тая душа, якая прыступіць да споведзі і св. Камуніі, атрымае поўнае адпушчэнне правін і караў. У гэты дзень адкрыты ўсе Божыя каналы, па якіх сыходзяць ласкі; няхай не баіцца наблізіцца да Мяне ніводная душа, нават калі б яе грахі былі, як пурпур" (Дз. 699). Езус таксама навучыў с. Фаўстыну асаблівай малітве – Вяночку да Божай міласэрнасці.*

*Дарагі Маленькі Чытач! Бог вучыць людзей быць міласэрнымі да кожнага чалавека. Тым самым мы становімся падобнымі да Бога. Гэта так узнёсла і звычайна адначасова… Кожны дзень прапануе мноства магчымасцей праявіць міласэрнасць, таму заклікаю ўсіх вас іх заўважаць і выкарыстоўваць.*

*Заданне:* ***разам з бацькамі памаліся Вяночкам да Божай міласэрнасці.***

*С. Вераніка Блізнюк FMA*

## НАВІНЫ



# ПАСХАЛЬНЫ ТРЫДУУМ

Непасрэдна перад урачыстасцю Уваскрасення Пана вернікі перажывалі Пасхальны Трыдуум: Вялікі чацвер, Вялікую пятніцу і Вялікую суботу. Галоўныя літургічныя падзеі ў сэрцы дыяцэзіі ўзначалілі мясцовыя іерархі.

У Вялікі чацвер св. Імшу Вячэры Пана ў гродзенскім касцёле Адшукання Святога Крыжа ўзначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч, а дапаможны біскуп дыяцэзіі Юзаф Станеўскі цэлебраваў св. Імшу ў катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя. У гэты дзень, калі ўзгадваецца ўстанаўленне сакраманту Эўхарыстыі і святарства, парафіяльныя супольнасці складалі сардэчныя пажаданні сваім душпастырам.

У Вялікую пятніцу – дзень смерці Пана Езуса – ва ўсіх парафіях Гродзенскай дыяцэзіі адбылася літургія Мукі Пана, на заканчэнне якой Найсвяцейшы Сакрамант быў перанесены ў Гроб Панскі, дзе вернікі адаравалі яго да распачацця літургіі Пасхальнай вігіліі. Кс. бп Аляксандр у гэты дзень узначаліў літургію, цэнтральнай часткай якой з'яўляецца адарацыя крыжа, у гродзенскім касцёле Адшукання Святога Крыжа, кс. бп Юзаф – у катэдральным касцёле.

У Вялікую суботу літургія Пасхальнай вігіліі распачалася асвячэннем агня і запальваннем Пасхала – сімваламі ўваскрослага Хрыста, які з'яўляецца Святлом свету. Біскуп Гродзенскі ў гэты дзень цэлебраваў урачыстую літургію ў катэдральным касцёле, а дапаможны біскуп – у лідскім касцёле Узвышэння Святога Крыжа.

Велікодная раніца ў многіх парафіях распачалася рэзурэкцыйнай працэсіяй, якая абвяшчала ўсяму свету аб уваскрасенні нашага Пана Езуса Хрыста. Урачыстую св. Імшу кс. бп Аляксандр узначаліў у касцёле Маці Божай Анёльскай у Гродне, а кс. бп Юзаф – у катэдральным касцёле.

## ДАБРАЧЫННАЕ ТАВАРЫСТВА "КАРЫТАС"




У сувязі са складанай эпідэміялагічнай сітуацыяй у свеце, звязанай з каронавірусам, дыяцэзіяльны "Карытас" узмоцнена аказвае дапамогу людзям, якія аказаліся ў патрэбе. Такім чынам дабрачынная арганізацыя паказвае, што Каталіцкі Касцёл спадарожнічае ім у бядзе і будзе далей падтрымліваць па меры сваіх магчымасцей.

## АДНЫМ РАДКОМ

• У Іўі ўспомнілі св. Яна Паўла II у 15-ую гадавіну яго смерці. • Адышоў у вечнасць кс. канонік Алег Дуль, пробашч парафіі св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску і дэкан дэканата Ваўкавыск. • У "Гроднахлебпраме" напярэдадні Вялікадня кс. канонік Антоній Грэмза блаславіў кулічы. • Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў католікаў з урачыстасцю Уваскрасення Пана. • На 2-ух новых міністрантаў павялічылася літургічная служба алтара ў Росі (дэканат Ваўкавыск).

*Агляд навін падрыхтаваны на падставе інтэрнэт-старонкі **grodnensis.by.***

# Велікодны тэст. Правер сябе!

**1. Яйка – гэта сімвал...**
А) цярпення Б) будучыні В) жыцця

**2. Калі асвячаюцца стравы на велікодны стол?**
А) у Пальмовую нядзелю Б) у Вялікую пятніцу
В) у Вялікую суботу

**3. Свечка, якая сімвалізуе ўваскрослага Хрыста, называецца...**
А) раратняя Б) Пасхал В) грамнічная

**4. Як называецца старажытны гімн, што спяваецца ў велікодную ноч?**
А) Экзультэт Б) Te Deum В) Магутны Божа

**5. Св. Імша, якая адпраўляецца на світанні ў Вялікдзень, называецца Рэзурэкцыяй. Што азначае слова "resurrectio" (лац.)?**
А) уваскрасенне Б) пераход В) раніца

**6. Каму першаму з'явіўся ўваскрослы Езус?**
А) апосталу Пятру Б) Марыі Магдалене В) сваёй Маці

**7. Назва мястэчка, дзе вучні пазналі ўваскрослага Хрыста ў ламанні хлеба?**
А) Бэтсаіда Б) Кафарнаум В) Эмаус

**8. Дзе Езус спаткаўся са сваімі вучнямі пасля ўваскрасення?**
А) Самарыя Б) Галілея В) Кафарнаум

**9. Першыя словы, якія сказаў Езус сваім вучням пасля ўваскрасення?**
А) "Спакой вам!" Б) "Я ўваскрос!"
В) "Шчаслівыя тыя, хто не бачыў, а паверыў"

**10. Каму з апосталаў належаць словы: "Калі не ўбачу на руках Яго ран ад цвікоў і не ўкладу пальца свайго ў раны ад цвікоў, і не ўкладу рукі сваёй у бок Яго, не паверу"?**
А) Андрэй Б) Пётр В) Тамаш

Паводле **catholicnews.by**

***Правільныя адказы:*** 1В, 2В, 3Б, 4А, 5А, 6Б, 7В, 8Б, 9А, 10В

## АНОНСЫ

### У ВАЎКАВЫСКУ ПАМОЛЯЦЦА ЗА КС. КАНОНІКА АЛЕГА ДУЛЯ Ў 30-ТЫ ДЗЕНЬ ПАСЛЯ СМЕРЦІ

**Св. Імша ў інтэнцыі спачылага адбудзецца 2 мая ў 12.00 у парафіяльным касцёле св. Станіслава Косткі.**

*Да ўдзелу запрашаюцца святары, манаскія асобы і свецкія вернікі, каб супольна памаліцца аб вечным жыцці для душы памерлага.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**19 красавіка 1947 г.** – кс. Марцін Пузырэўскі, *проб. Адэльск;*
**23 красавіка 1952 г.** – кс. Вацлаў Раманоўскі, *проб. Парэчча;*
**24 красавіка 1991 г.** – кс. Аляксандр Цярэшка, *проб. Воўпа;*
**24 красавіка 1992 г.** – кс. Ян Мяноўскі, *проб. Рагозніца;*
**24 красавіка 2005 г.** – а. Венантый Вількаш CSsR, *проб. Рэпля;*
**25 красавіка 1984 г.** – кс. Юзаф Мацееўскі, *проб. Заневічы;*
**28 красавіка 1944 г.** – кс. Ільдэфонс Бобіч, *проб. Іўе.*

## Каляндар падзей

**19 красавіка**
*Нядзеля Божай Міласэрнасці.*

**23 красавіка**
*Успамін св. Юрыя, мучаніка. Дзень імянін Святога Айца Францішка. Молімся за наступніка св. Пятра і Паўсюдны Касцёл.*

**24 красавіка**
*Успамін св. Войцеха, біскупа і мучаніка.*

**25 красавіка**
*Свята св. Марка, евангеліста.*

**29 красавіка**
*Свята св. Кацярыны Сіенскай, панны і доктара Касцёла, заступніцы Еўропы.*

**1 мая**
*Распачацце маёвага набажэнства.*

**2 мая**
*Успамін св. Атаназія, біскупа і доктара Касцёла.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

**Красавік**

*Аб ласках, патрэбных для нашых біскупаў Аляксандра Кашкевіча і Юзафа Станеўскага, а таксама аб фізічных і духоўных сілах для іх.*

*Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***

*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***

*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім. Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё.*

***Інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі grodnensis.by***

*Актуальныя навіны, фота, відэа. Даведайся больш пра жыццё Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне!*

# Ад шчырага сэрца

## ВІНШАВАННІ З НАГОДЫ ДНЯ СВЯТАРА І СВЯТ УВАСКРАСЕННЯ ПАНА

**Глыбокапаважаным Ксяндзу Арцыбіскупу Тадэвушу Кандрусевічу, Біскупам Аляксандру Кашкевічу і Юзафу Станеўскаму, Ксяндзам Юрыю Марціновічу, Антонію Грэмзу, Валерыю Быкоўскаму, Юрыю Канапельку, Генадзю Кухарэвічу, Дзмітрыю Леўчыку, Анджэю Ганчару, Айцу Казіміру Жылісу і ўсім Супрацоўнікам рэдакцыі "Слова Жыцця"**
жадаю Божага блаславення, доўгіх гадоў жыцця і спакою ў сэрцы. Няхай кожны дзень будзе асвечаны прамянямі Божай міласэрнасці.
*Дзмітрый Зотаў, ПК-11 у Ваўкавыску*

**Глыбокапаважанным Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу і Юзафу Станеўскаму, Ксяндзам Юрыю Марціновічу і Яну Сарэлу**
жадаем моцнага здароўя, радасці і душэўных сіл. Няхай агеньчык аптымізму ніколі не гасне ў сэрцы, а кожны дзень будзе асвечаны любоўю, міласэрнасцю і спакоем.
*Апостальства "Маргарытка" і Легіён Марыі з парафіі св. Яна Паўла II у Смаргоні*

**Іх Эксцэленцыям Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу і Юзафу Станеўскаму, а таксама паважанаму Ксяндзу Пробашчу Вітольду Лазавіцкаму**
жадаем душэўнага супакою, моцнага здароўя, штодзённай радасці і непахіснага жадання абвяшчаць Божае слова.
*Парафіяльная рада і вернікі з Балі Касцёльнай*

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу, паважаным Ксяндзам Каноніку Здзіславу Вэдэру, Пробашчу Алегу Жураўскаму, Артуру Ляшнеўскаму, Алегу Каралёву, Аляксандру Мятліцкаму, Казіміру Мураву, Віктару Захарэўскаму, Каноніку Юзафу Багдзевічу, Уладзіславу Сурвілу, Сёстрам Марыі**

**Стасевіч, Ірыне Барцэвіч, Вераніцы Блізнюк, Валянціне Кот, Юліі Клявец, Агаце Смольскай, Аляксандры Арэшка, Мар'яне Алешчык, Філатэі Ціхановіч і Клары Волчэк**
жадаю спакою, які прыносіць свету ўваскрослы Пан. Няхай Хрыстос сцеражэ і блаславяе.
*Аліцыя Воранава са Смаргоні*

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу, паважаным Ксяндзам Алегу Яновічу, Яну Сарэлу, Леону Лішыку, Віктару Мыслюку і Юрыю Марціновічу**
жадаем здароўя і радасці. Няхай сэрца будзе напоўнена Божым спакоем і любоўю ўваскрослага Пана.
*Вернікі з парафіі св. Яна Хрысціцеля ў Воўпе*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Антонію Казлоўскаму**
жадаем шчодрых Божых ласкаў, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, здароўя і плённай душпастырскай паслугі.
*Парафіяне з в. Малінавая*

*працяг на с. 8*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Паўлу Астукевічу і Антонію Адамовічу, а таксама Манаскім Сёстрам**
жадаем блаславення ад уваскрослага Хрыста, апекі Панны Марыі і моцнага здароўя. Ксяндзу Пробашчу з нагоды дня нараджэння жадаем таксама патрэбных Божых ласкаў і нястомнасці ў абвяшчэнні Яго Слова.
*Парафіяне з Індуры*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віктару Захарэўскаму**
жадаем блаславення ад уваскрослага Хрыста на кожны дзень. Няхай Ваш святарскі шлях будзе шчаслівы і блаславёны.
З нагоды дня нараджэння жадаем таксама, каб здароўе было моцным, радасць – штодзённай, сілы – бясконцымі, а сэрца заўсёды было адкрыта для Бога і людзей.
*Вернікі з касцёла Божага Цела ў Дварцы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Руслану Мазану і ўсім Святарам дэканата**

**Вялікая Бераставіца**
жадаем, каб уваскрослы Хрыстос адарыў Вас сваімі ласкамі, радасцю і супакоем.
*Францішканскі ордэн свецкіх з Вялікіх Эйсмантаў*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Сарэлу**
жадаем стойкасці ў святарскай паслузе, нязгаснага запалу ў абвяшчэнні Божага слова і непахіснай надзеі.
*Люцыя Лабэцкая і Станіслава Сідаровіч з Воўпы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Алегу Яновічу**
жадаем моцнага здароўя, дароў Святога Духа, блаславення ад уваскрослага Хрыста і людской добразычлівасці.
*Колы Жывога Ружанца МБ Нястомнай Дапамогі і св. Юзафа з Воўпы*

**Паважанаму Ксяндзу Валерыю Спірыдону**
жадаем доўгіх гадоў жыцця, здароўя, Божага блаславення і апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай Святы Дух кіруе і асвячае!
*Вернікі з капліцы ў Бортніках*

# Ад шчырага сэрца

**Паважанаму Ксяндзу Валянціну Хведуку**
жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, шмат радасці і светлай раніцы Уваскрасення.
З нагоды дня нараджэння жадаем таксама апекі Маці Божай і мноства Божых ласкаў. Няхай Хрыстос Цябе благаслаўляе!
*Родныя*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Канапельку**
жадаем бязмежнай радасці ад уваскрасення Хрыста і шчодрга плёну ў святарскай паслузе.
З нагоды дня нараджэння і імянін жадаем таксама, каб здароўе было моцным, у сэрцы заўсёды гасцілі спакой і дабрыня, а Маці Божая і святы заступнік нястомна апекаваліся.
*Парафіяне са Студзенікаў*

**Паважаным Ксяндзу Пробашчу Юрыю Бяганскаму, Дыякану Дзмітрыю Мальцу і ўсім Ксяндзам, якія абвяшчалі Божае слова і служылі ў нашай парафіі,**
жадаем цярплівасці, умення захоўваць спакой у хвіліны сумненняў, а таксама добрага сэрца, якое сваім цяплом умацоўвае душы патрабуючых.
*Вернікі з парафіі Наведвання НПМ у Тракелях*

**Паважаным Ксяндзам Яўгену Учкуронісу, Дзмітрыю Урбановічу, Алегу Яновічу, Артуру Валчкевічу, Аляксандру Вараб'ёву, Юрію Едзіку і Віталію Цыбульскаму, Сястры Магдалене Кулай і Закрыстыяніну Сяргею Кікілічу**
жадаем добрага здароўя, цярплівасці і шчодрых ласкаў ад уваскрослага Хрыста. Няхай Маці Божая беражэ Вас, а Святы Дух надзяляе мудрасцю.
*Легіён Марыі, апостальства "Маргарытка" і вернікі з парафіі св. Яна Паўла II у Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Гардзейчыку**
жадаем, каб уваскрослы Езус адарыў сваімі ласкамі, моцным здароўем, радасцю, душэўным супакоем і зычлівасцю людскіх сэрцаў.
*Вернікі з парафіі Нараджэння НПМ у в. Кемелішкі*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Рудзевічу**
жадаем, каб уваскрослы Хрыстос бараніў ад няшчасцяў, а Святы Дух шчодра адорваў патрэбнымі ласкамі.
*Парафіяне з касцёла св. Міхала Арханёла ў Луконіцы*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Аляксандру Раманоўскаму, Прэлату Юзафу Трубовічу, Эрнэсту Мікалайчыку і Андрэю Зайко**
жадаем, каб Езус стаў для Вас жывой крыніцай, якая ніколі не перасыхае. Дзякуем за духоўнае развіццё нашай парафіі, адданую паслугу і клопат пра кожнага з нас.
*Парафіянез касцёла Беззаганага Зачацця НПМ, Гродна-Паўднёвы*

**Паважанаму Айцу Пробашчу Багуславу Вуйтовічу**
жадаем, каб уваскрослы Езус узмацняў Вашу веру, напаўняў сэрца любоўю і станавіўся крыніцай спакою і памяркоўнасці.
*Францішканскі ордэн свецкіх*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Чэславу Паўлюкевічу, Дзмітрыю Папенюку, Андрэю Радзевічу і ўсім Рэкалекцыяністам, якія служылі ў нашай парафіі,**
жадаем нястомнага аднаўлення Вашага святарства праз Святога Духа. Няхай Ён будзе з Вамі праз свае дары!
*Парафіяне з Росі*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Ханько**
жадаем заўсёды заставацца верным Хрысту. Няхай Ён адорвае Вас тымі ласкамі, якія Вам неабходны, каб яшчэ паўней рэалізаваць святарскае пакліканне.
*Сябры*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Рушніцкаму**
жадаем, каб святло Хрыста асвячала Ваш шлях, а Божая любоў і апека Найсвяцейшай Маці дадавала сіл і цярплівасці.
*Парафіяне і Касцёльны камітэт з Каробчыцаў і навакольных вёсак*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Рудзевічу**
жадаем святла, якое прыносіць у жыццё ўваскрослы Хрыстос, а таксама супакою, надзеі і сіл на службе Богу і людзям.
*Вернікі з в. Старое Сяло*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віктару Захарэўскаму**
жадаем, каб уваскрослы Хрыстос адарыў Вас моцным здароўем, цярплівасцю і ўсімі патрэбнымі ласкамі.
Ксяндзу Пробашчу з нагоды дня нараджэння жадаем таксама, каб кожны дзень жыцця быў асвечаны праменямі Божай любові і міласэрнасці.
*Вернікі з парафіі Раготна*

**Паважаным Ксяндзу Юрыю Канапельку і Айцу Валерыю Шэйгерэвічу**
жадаем душэўнага супакою ў святарскай паслузе, а таксама сіл для рэалізацыі ўсіх планаў і намераў.
*Парафіяне з Поразава*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Балтрукевічу**
жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою і радасці. Няхай Ваш шлях заўсёды будзе асвечаны ласкаю Божай дапамогі, а побач будуць добрыя людзі.
*Вернікі фарнага касцёла ў Навагрудку*

**Паважанаму Ксяндзу Генрыху Яблонскаму**
жадаем шчодрых ласкаў ад уваскрослага Хрыста. Дзякуем за плённыя рэкалекцыі ў нашым касцёле, за так узнёсла праведзены Крыжовы шлях і актуальныя казанні.
*Вернікі з парафіі св. Яна Хрысціцеля ў Бенясконях*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Здзіславу Пікулу**
жадаем, каб уваскрослы Хрыстос нястомна благаслаўляў, а Святы Дух дапамагаў годна выконваць святарскую паслугу і ўдзяляў свае дары.
*Вернікі з парафіі Унебаўзяцця НПМ у Дзятлаве*

**Паважанаму Ксяндзу Раману Ялоўчыку**
жадаем здароўя, поспехаў і радасці на кожны дзень святарскай паслугі. Няхай уваскрослы Езус адорвае сваёй любоўю.
*Былыя парафіяне з Навіянкі*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Дзмітрыю Несцеру, Юрыю Марціновічу і Віктару Савіцкаму**
жадаем здароўя, душэўнага супакою, зычлівых людзей побач. Няхай святарскі шлях будзе шчаслівы і благаслаўлёны, а Пан Бог адорвае сваімі ласкамі.
*Вернікі з капліцы Вінцукі*

**Паважаным Ксяндзу Каноніку Віктару Велівісу і Сястры Паўліне**
жадаем, каб уваскрослы Хрыстос нястомна адорваў Вас сваімі ласкамі, штодзённа благаслаўляў і падтрымліваў у паслузе.
*Вернікі з касцёла св. Роха*

**Паважанаму Айцу Андрэю Шчупалу**
жадаем велікоднай радасці ў выкананні штодзённых абавязкаў і заданняў. Няхай уваскрослы Хрыстос вядзе па сваіх шляхах.
*Сем'і Заяц і Пешкун*

**Паважанаму Ксяндзу Вячаславу Матукевічу**
жадаем моцнага здароўя, сіл, спакою ў сэрцы. Няхай добры Бог благаслаўляе кожны Ваш дзень, а Маці Божая ахінае плашчом апекі.
*Касцёльны Камітэт і вернікі з парафіі Дуды*

**Паважаным Ксяндзам Андрэю Пышынскаму, Валерыю Спірыдну і Паўлу Звяжынскаму**
жадаем шчодрых Божых дароў, якія прыносіць уваскрослы Пан, радасці і спакою ў сэрцы, каб надалей адважна крочыць праз жыццё.
*Вернікі з Дзянісава, Рандзілаўшчыны і Казлоўшчыны*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Шэмету**
жадаем, каб Езус благаслаўляў на святарскім шляху. Дзякуем за штодзённую паслугу ў нашай парафіі.
*Вернікі з Адамавічаў і Гродна-Аўгустоўка*

**Паважанаму Ксяндзу Раману Ялоўчыку**
жадаем, каб на святарскім шляху Вам спадарожнічала блізкасць Таго, хто Вас паклікаў і каму Вы прысвяцілі сваё жыццё. Няхай Божы Дух жыве ў Вашым сэрцы.
*Вернікі з парафіі св. Міхала Арханёла ў Гнезне*

**Паважаным Айцам Пробашчу Дзмітрыю Лабкову, Юзафу Гензу, Андрэю Врублеўскаму, Валерыю Мазюку, Віктару Бохану, Андрэю Ядкоўскаму, Эдуарду Пяцельчыцу, Вальдэмару Слоту і Змітру Чарнелю, Сёстрам Філатэі і Агаце**
жадаем нязгаснай любові і веры, а таксама зычлівых людзей побач. Няхай святло Хрыста асвячае Ваш шлях!
*Францішканскі ордэн свецкіх, апостальства "Маргарытка" і вернікі з парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне*

**Паважаным Ксяндзам Каноніку Антонію Грэмзу і Уладзіміру Шкурынскаму**
жадаем усяго найлепшага на доўгія гады жыцця, а таксама стойкасці ў пакліканні і радасці ў сэрцы.
*Сям'я Падзялінскіх*

**Паважаным Ксяндзам Уладзіславу Сурвілу і Леону Ладышу**
жадаем пасхальнай радасці і сіл у рэалізацыі Божай волі. Няхай Панна Марыя разам са сваім Сынам заўсёды маюць Вас у сваёй апецы.
*Вернікі з парафіі Найсвяцейшай Тройцы, Войстам*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму**
жадаем спазнаць радасць, якую прыносіць уваскрослы Пан. Няхай Божы супакой агорне сэрца, каб з надзеяй і адвагай крочыць праз жыццё.
*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Капцёўкі*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Лебядзевічу**
жадаем, каб ніякія трывогі не здолелі знішчыць надзею на лепшае заўтра. Няхай Ваша сэрца заўсёды будзе адкрыта на ўздзеянне Бога.
*Члены Колаў Жывога Ружанца з Суботнікаў*

**Паважанаму Ксяндзу Дзмітрыю Несцеру**
жадаем зычлівасці, любові і дабрыні ад кожнага чалавека, якога Божы Провід ставіць побач з Вамі. Няхай уваскрослы Пан апраменьвае сваёй ласкай.
*Касцёльны Камітэт і вернікі з парафіі Геранёны*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Ханько**
жадаем, каб уваскрослы Хрыстос даў Вам сілы, каб пераадолець усе цяжкасці, і надзяліў радасцю Уваскрасення.
*Парафіяне з Мастоў*

**Паважаным Ксяндзам Антонію Абухоўскаму, Юрыю Свіслоцкаму, Юрыю Павайбу і Юрыю Марціновічу, Сёстрам Гарэцці, Эўхарыі, Серафіме, Юліце і Паўле**
жадаем сіл на кожны дзень паслугі, моцнага здароўя, душэўнага супакою і людской зычлівасці.
*Касцёльная рада і сям'я Касцюшкаў*

**Паважаным Ксяндзам Яну Сарэлу і Алегу Яновічу**
жадаю шчодрых ласкаў ад уваскрослага Хрыста і моцы Святога Духа, каб надалей адважна абвяшчаць Евангелле.
*Марыя Вішнеўская з Воўпы*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Яну Пузыну, Аляксандру Пятровічу, Яну Варанецкаму і Юрыю Садоўскаму**
жадаем, каб жыццё было асвечана праменямі Божай міласэрнасці і любові, а ўваскрослы Хрыстос адорваў надзеяй на лепшае заўтра.
*Вернікі з парафіі св. Міхала Арханёла ў Ашмянах*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Генрыху Яблонскаму**
жадаем, каб святло Хрыста асвячала Ваш святарскі шлях, а Божая міласэрнасць і апека Панны Марыі дадавалі сіл і цярплівасці.
З нагоды дня нараджэння жадаем таксама моцнага здароўя і людской добразычлівасці.
*Вернікі з Забалаці*

## ВІНШАВАННІ З НАГОДЫ ДНЯ НАРАДЖЭННЯ

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Канапельку**
з нагоды дня нараджэння і імянін жадаем моцнага здароўя, шчодрых дароў Святога Духа і патрэбных Божых ласкаў.
*Былыя парафіяне з капліцы ў Вердамічах*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Канапельку**
з нагоды дня нараджэння і імянін жадаем моцнага здароўя, радасці, спакою і поспехаў. Няхай Усемагутны штодзённа дадае сіл і надзеі на лепшае.
*Вернікі з парафіі св. Міхала Арханёла ў Поразаве*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Шэмету**
жадаем штодзённай радасці, шчасця, душэўнага супакою і моцнага здароўя на доўгія гады жыцця.
*Парафіяне*

## ВІНШАВАННІ З НАГОДЫ ІМЯНІН

**Паважанаму Ксяндзу Рэдактару Юрыю Марціновічу**
жадаем, каб усемагутны Бог дапамагаў у рэалізацыі планаў, а Святы Дух шчодра ўдзяляў свае дары.
*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Саковічу**
жадаем апекі Найсвяцейшай Маці і святога заступніка, шчодрых Божых дароў і моцнага здароўя.
*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Карэлічаў і Варончы*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Федуку**
жадаем, каб добры Бог благаслаўляў кожны Ваш дзень, а Найсвяцейшая Маці ахінала плашчом мацярынскай любові і апекі.
*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Ражанкі*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Кузьмічу**
жадаем рэалізацыі планаў і намераў, сіл і цярплівасці ў душпастырскай паслузе, а таксама добрых і зычлівых людзей побач.
*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Новага Двара*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Жэгарыну**
жадаем здароўя, моцы, радасці, шмат сіл для абвяшчэння Божай праўды і няспыннай апекі Найсвяцейшай Маці на кожны дзень.
*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Навагрудка і Любчы*

**Паважанаму Айцу Віталію Юркевічу**
жадаем моцы Святога Духа, радасці, якая выплывае з паклікання, здароўя і шмат шчаслівых і спакойных дзён.
*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам са Слоніма*

**Паважанаму Ксяндзу Мар'яну Хаменю**
жадаем моцнага здароўя, сілы, надзеі, стойкасці, дароў Святога Духа і апекі Маці Божай на кожны дзень.
*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Шылавічаў*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Марціновічу**
жадаем радасці ад здзяйснення святарскай паслугі і шчодрых ласкаў ад Пана Езуса на дарозе, па якой Вы ідзеце да святасці.
*Вернікі з парафіі бл. Мар'яны Бярнацкай, Баранавічы-Ласосна*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Марціновічу**
жадаем патрэбных Божых ласкаў, здароўя на доўгія гады, радасці ў жыцці, апекі святога заступніка і нястомнай дапамогі Маці Божай.
*Вернікі з капліцы Вінцукі*

**Паважаным Ксяндзам Юрыю Барташэвічу і Юрыю Ясевічу**
жадаем шчодрых ласкаў, стойкасці ў выкананні сятарскай паслугі і нястомнай апекі Маці Божай.
*Апостальства "Маргарытка" і вернікі з парафіі Беняконі*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;** заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 75-64-38; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 1890; тыраж 5045; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты. Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная